*Сёння і па наступны аўторак яшчэ можна падпісацца на “Народную Волю” на чэрвень.*
*Працягваецца падпіска і на другую палову 2015 года. Будзем і надалей сябраваць!*

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, громадою...*
*Якуб КОЛАС*

**№ 39 (3984)**

22 мая 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

# Што прывязе з Рыгі Уладзімір Макей?

*У сталіцы Латвіі, якая старшынствуе ў Еўрасаюзе, праходзіць саміт краін «Усходняга партнёрства». Беларусь на саміце прадстаўляе міністр замежных спраў.*



Яшчэ на пачатку працы саміту стала вядома, што адно з асноўных пытанняў, якое тычыцца Беларусі, – падпісанне дакументаў аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС, не будзе разглядацца. Дзяржаўны сакратар МЗС Латвіі Андрэйс Пілдэгавічс адзначыў, што дакумент, хутчэй за ўсё, будзе ўзгоднены і падпісаны ў сярэдзіне чэрвеня – да канца латвійскага старшынства ў ЕС.

Таксама перад пачаткам саміту агенцтва “Рэйтар” распаўсюдзіла скандальную, але чакаемую навіну: Беларусь і Арменія адмовіліся падпісаць выніковую заяву саміту “Усходняга партнёрства”, бо ў ёй была фраза аб «анексіі» Крыма. З-за пазіцыі Мінска і Ерэвана прыйшлося перапісаць выніковы дакумент, выпрацаваць кампрамісную заяву, у якой пазіцыі Еўрасаюза і краін-удзельніц “Усходняга партнёрства” (Украіна, Малдова, Азербайджан, Арменія, Грузія і Беларусь) прадстаўлены асобна. У выніковым дакуменце ўтрымліваецца асуджэнне Еўрасаюзам далучэння Крыма да Расіі.

Яшчэ на пачатку працы саміту ў еўрапейскай прэсе з’явіліся загалоўкі кшталту: “Рыжскі саміт пакажа ўразлівасць «партнёрства». Крытыка гучала з-за таго, што не спраўдзіліся спадзяванні Украіны, Грузіі і Малдовы на тое, што ў выніковых дакументах рыжскага саміту будзе прызнана іх права падаць заяўку на ўступленне ў Еўрасаюз. Не атрымался ў Грузіі і Украіны дамовіцца і аб бязвізавым рэжыме.

Што непасрэдна адбывалася падчас саміту, што засталося за зачыненымі дзвярыма – усе падрабязнасці ў наступным нумары “Народнай Волі” паведаміць Святлана Калінкіна, якая ў гэтыя дні знаходзіцца ў Рызе.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## “Вызваліць усіх палітычных зняволеных у Арменіі, Азербайджане і Беларусі”

*З такім зваротам да краін-членаў “Усходняга партнёрства” звярнуліся праваабаронцы – удзельнікі Форуму грамадзянскай супольнасці, які праходзіў у межах рыжскага саміту “Усходняга партнёрства”.*

Тэкст рэзалюцыі зачытаў перад удзельнікамі форуму **Алесь Бяляцкі**.

*“Удзельнікі II Форуму канферэнцыі грамадзянскай супольнасці заклікаюць неадкладна вызваліць усіх палітычных зняволеных у Арменіі, Азербайджане і Беларусі. Урады гэтых краін павінны прызнаць, што наяўнасць зняволеных па палітычных матывах несумяшчальная з тымі абавязацельствамі, якія яны ўзялі на сябе, стаўшы ўдзельнікамі “Усходняга партнёрства”. Палітзняволеныя павінны быць вызвалены, пераслед няўрадавых арганізацый павінен спыніцца, правы чалавека павінны паважацца”.*

Зварот перададуць лідарам краін-партнёраў, кіраўнікам краін Еўрасаюза.

ВІЗІТ

## Беларусь наведае кіраўнік Індыі

У красавіку гэтую краіну наведаў міністр замежных спраў Беларусі **Уладзімір Макей** і правёў перамовы з кіраўніцтвам буйных кампаній, зацікаўленых у развіцці супрацоўніцтва з Беларуссю дзеля актывізацыі бізнес-кантактаў. Хутка магчымы візіт у адказ. Як паведамляе БЕЛТА са спасылкай на індыйскае дыппрадстаўніцтва ў Беларусі, прэзідэнт Індыі **Пранаб Мукерджы** ў чэрвені плануе прыехаць у Мінск з афіцыйным візітам. Дакладныя мэты візіту невядомыя, але мяркуецца, што індыйскі кіраўнік будзе абмяркоўваць з беларускімі ўладамі пашырэнне эканамічных кантактаў.

На сёння тавараздварот паміж Беларуссю і Індыяй складае каля паўмільярда долараў. Індыйскі бізнес рэалізаваў у нашай краіне шэраг паспяховых камерцыйных праектаў, напрыклад, паўдзельнічаў у рэканструкцыі Гродзенскай ЦЭЦ-2, якая была ўведзена летам 2013 года. Беларусь у сваю чаргу з’яўляецца буйным пастаўшчыком калійных угнаенняў у Індыю.

ДЫПКУР’ЕР

## Аднавіць амерыканскую візу можна ў Мінску

З 1 чэрвеня 2015 года Амбасада ЗША ў Мінску пачне прымаць дакументы на падаўжэнне бягучых і аднаўленне віз, дзеянне якіх скончылася менш за чатыры гады таму. У тым ліку зменіцца працэдура аднаўлення гасцявых віз (катэгорыя B). Калі раней беларусы, якія штогод ездзілі, напрыклад, да сваякоў у ЗША, павінны былі аднаўляць візы ў пасольствах суседніх краін, то цяпер гэта можна зрабіць і ў нас, паведамілі журналістам у консульскім аддзеле амбасады ЗША.

Новымі правіламі змогуць скарыстацца тыя, чые адбіткі пальцаў ужо ёсць у сістэме пасольства і хто будзе звяртацца за візай той жа катэгорыі. Пры гэтым заяўнікам на аднаўленне віз не трэба прыходзіць у пасольства на сумоўе і падаваць дакументы асабіста. Аднесці іх можа любы іншы чалавек, прычым не абавязкова сваяк.

СУД ДЫ СПРАВА

## 8,5 года калоніі за махлярства

Суровы прысуд вынес днямі суд Савецкага раёна Гомеля па крымінальнай справе ў дачыненні да 40-гадовага гамяльчаніна Юрыя.

Мужчына абвінавачваўся ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці і махлярстве ў асабліва буйным памеры.

Падчас судовых пасяджэнняў агалошвалася, як дзейнічаў абвінавачаны. Ён прапаноўваў знаёмым свае паслугі: прыгнаць з-за мяжы машыну. Браў грошы авансам, у доўг. Сумы былі вялікія. Следства выявіла больш за сто крымінальных эпізодаў, усяго ахвярамі “прадпрымальніка” сталі больш за 60 даверлівых кліентаў. Паводле папярэдняй інфармацыі, агульная сума нанесенай шкоды перавысіла 500 тысяч долараў. “Працаваў” па такой схеме гамяльчанін доўгі час: першы факт датаваўся кастрычнікам 2010 года, апошні – ліпенем 2014-га.

Суд прызнаў махляра вінаватым і асудзіў на 8,5 года пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Акрамя таго, гамяльчанін павінен выплаціць некальким дзясяткам пацярпелых суму, роўную па актуальным курсе амаль 400 тыс. долараў, 280 млн рублёў дзяржпошліны і 470 млн рублёў у даход дзяржавы за незаконнае ўзбагачэнне. Аднак галоўнае пытанне, куды падзеліся ўсе грошы – больш за 4 млрд рублёў, – засталося без адказу. Устанавіць, дзе знаходзіцца ўся сума, следства не змагло. Юрый сцвярджаў, што ён таксама ахвяра – яго падманулі кампаньёны з Брэста.

Прысуд можа быць абскарджаны і апратэставаны на працягу 10 дзён.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПАЗІЦЫЯ



## Вяртанне Расіі ў G7 неверагоднае

Канцлер Германіі Ангела Меркель назвала «неверагодным» вяртанне «вялікай сямёркі» да фармату G8. Гэтую заяву канцлер ФРГ зрабіла, выступаючы ў парламенце напярэдадні саміту “Усходняга партнёрства” ў Рызе.

*«Расія не будзе прысутнічаць на саміце G7 у Эльмаў, бо сёння мы разумеем G7 як саюз, аб’яднаны агульнымі каштоўнасцямі»,* – цытуе РІА «Новости» словы нямецкага канцлера.

Як вядома, саміт G7 пройдзе ў нямецкім Эльмаў 7 і 8 чэрвеня 2015 года.

ЗА КРАТАМІ

## Юрыю Рубцову пагражае зняволенне




Грамадскага актывіста Юрыя РУБЦОВА абвінавачваюць ва “ўхіленні ад адбыцця пакарання”. Нагадаем: актывіст адбывае паўтара года абмежавання волі ў вёсцы Куплін па абвінавачванні ў абразе суддзі Савецкага раёна Мінска Кірыла Палулеха. Яго затрымалі на “Чарнобыльскім Шляху” за майку з надпісам “Лукашэнка, сыходзь!”.

На “хіміі” Юрый Рубцоў адмовіўся працаваць з-за нізкага заробку і папрасіў забяспечыць яму такую працу, за якую ён атрымліваў бы афіцыйна прызнаны сярэдні заробак па краіне, а гэта не менш за 600 долараў у эквіваленце. Пасля гэтага супраць Рубцова распачалі крымінальную справу. Яму пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі. Трымаюць актывіста ў Баранавіцкім СІЗА. Ад 6 красавіка ён трымае галадоўку пратэсту. Юрый Рубцоў патрабуе адкрытага суда, які прызначаны на 27 мая ў судзе Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці.

**Любоў ЛУНЁВА.**

РЭГІСТРАТУРА



## Мінскім медыкам павысяць заробкі

Праўда не ўсім, а толькі асобным катэгорыям, занятым у галіне паліятыўнай медыцыны і кардыяхірургіі.

Адпаведнае рашэнне прыняла 11-я сесія Мінскага гарсавета. Як інфармуе агенцтва “Мінск-Навіны”, сёлета з гарадскога бюджэту плануецца выдаткаваць 126,9 млрд рублёў на павышэнне аплаты працы медыкаў. За першы квартал на гэтыя мэты пайшлі ўжо 24 млрд рублёў.

Адзначаецца, што заробкі павысяцца ў супрацоўнікаў Мінскага гарадскога клінічнага анкалагічнага дыспансера, бальніцы паліятыўнага догляду «Хоспіс», аддзялення паліятыўнай медыцынскай дапамогі «Хоспіс» 11-й гарадской клінічнай бальніцы, аддзялення паліятыўнай дапамогі Дома дзіцяці №1 для дзяцей з арганічным паражэннем цэнтральнай нервовай сістэмы і псіхікі. Урачам-спецыялістам заробкі павысяць на 780 тысяч рублёў, медсёстрам, акушэркам, фельчарам – на 650 тысяч, малодшым медсёстрам па доглядзе за хворымі – на 390 тысяч рублёў.

Таксама дабаўку да зарплаты атрымаюць кардыяхірургі і іншыя ўрачы кардыяхірургічных аддзяленняў – 910 тысяч альбо 1 млн 40 тысяч рублёў у залежнасці ад кваліфікацыі.

ОСОБОЕ МНЕНИЕ

# Выборы для Лукашенко

***Любое полноценное участие оппозиции в нынешней избирательной кампании впоследствии может оказаться фатальным.***

Я считаю, что намеченная на летне-осенний период 2015 года политическая кампания по «выборам президента Беларуси» нужна исключительно Александру Лукашенко.

Эта кампания, проводимая по лекалам белорусского «вождя» и по отрепетированным до автоматизма схемам с заранее известным ее итогом, не нужна белорусскому народу. А если быть более точным – большинству граждан Беларуси. Все разговоры со ссылкой на социологов от власти о том, что, дескать, более половины наших граждан все еще верят в то, что при Лукашенко проводились нормальные выборы, – это, по-моему, не более чем лукавство. А социологам, распространяющим такую, на мой взгляд, чушь, грош цена.

### Выборы как фейк

Все избирательные кампании, которые проводил режим Лукашенко после осуществления, по моему мнению, госпереворота в ноябре 1996 года, – сплошная профанация. Или, как сейчас принято говорить**,** **фейк**. Опросы любых социологов, проводимые в нашем авторитарном государстве, – тот же сплошной фейк.

Итак, все годы правления Лукашенко, я считаю, мы имели дело с фейковыми выборами. Но не в том смысле, что отсутствовало само событие, т.е. политическая кампания, именуемая выборами. А в том смысле, что самих-то выборов не было.

Если речь шла о выборах президента как высшего должностного лица белорусского государства, то у меня лично есть все основания полагать, что вначале кандидатура для Беларуси на этот пост утверждалась в Москве, в Кремле. Причем, **как правило**, заблаговременно. То есть до начала самой политической кампании. Что же касается выборов депутатов всех уровней, включая депутатов, как я считаю, бутафорской Палаты представителей, то их списки заранее согласовывались в Администрации Лукашенко и структурах его «вертикали власти».

Упомянутая формулировка **«как правило»** означает, что было одно исключение. В 2010 году Путин и Медведев в Кремле решили, как утверждают некоторые источники, немного «подергать» Лукашенко за короткий политический поводок. И не утвердили его кандидатуру к моменту старта политической кампании. К тому же по телевидению был показан документальный сериал «Крестный батька», изобличающий Лукашенко. В нем Лукашенко предстает не только как организатор громких политических акций неблаговидного характера, но и просто как человек со многими пороками.

Поначалу многим показалось, что Кремль решил снять Лукашенко. Но случилось так, что Лукашенко, продав «Белтрансгаз» и прибыв в начале декабря 2010 года в Москву «на покаяние», вымолил-таки «ярлык на царство» в Синеокой на очередные пять лет – до конца 2015 года. И, поговаривают, получил не только этот ярлык, но и «добро» на жестокое подавление оппозиции.

Что мы в итоге и увидели 19 декабря 2010 года в день «выборов». И в последующие годы, когда даже за простое хлопанье в ладоши на улицах Минска надрессированный белорусский ОМОН хватал и избивал людей.

### Получение очередного «ярлыка на царство»

Наш строптивый правитель в нынешней ситуации вновь рассчитывает на получение в Кремле очередного «ярлыка на царство». Тем более что кремлевский вождь В.Путин после крымско-донбасской авантюры противопоставил Россию всему миру. И тем самым вверг ее в затяжной (по меркам человеческой жизни) период нестабильности с непредсказуемыми последствиями.

И на этот раз в Кремле, вероятно, решат вновь выдать Александру Лукашенко ярлык на правление. Ведь он чуть ли не единственный оставшийся союзник Кремля. Впрочем, это окончательно станет известно, когда стартует политическая кампания по «выборам президента Беларуси». Если в ней Лукашенко вновь, в пятый раз подряд, примет старт – это означает, что «ярлык на царство» получен. И все дальнейшее действо под названием «выборы президента Беларуси» теряет всякий смысл.

При таких обстоятельствах разгромленной и разъединенной диссидентской оппозиции нужно **максимально ответственно подойти к формату своего участия в нынешнем избирательном фейке**. Нужно отдавать себе отчет в том, что любое полноценное участие оппозиции, пусть даже разгромленной и диссидентской, в нынешней кампании по «выборам Лукашенко» впоследствии может оказаться фатальным. И не только для самой белорусской оппозиции, но и для белорусской государственности. Ибо любое участие оппозиции в фейковых выборах придает им дополнительную легитимность.

### Решение Кремля по белорусскому вопросу

Уповать на то, что в Кремле еще не принято решение по белорусскому вопросу, – верх наивности. Решение принято, причем уже давно. И исходит оно, я полагаю, из того, что Беларусь при Лукашенко (или сразу после него) должна быть аннексирована Россией по крымскому варианту либо по областям. Открытыми остаются лишь сроки воплощения в жизнь этого решения. И, возможно, некоторые его детали, связанные с международной реакцией на такого рода действия.

И не только события в Украине тому свидетельство. Прежде всего ярчайшим примером уничтожения Беларуси как государства и белорусов как нации является почти 20-летняя политика Лукашенко и его режима по уничтожению многих составляющих **белорусскости в Беларуси**. Дошло уже до того, что любое звучание *беларускай мовы* в коридорах лукашенковской власти вызывает нервную реакцию в российской Госдуме и в среде прокремлевских политологов и аналитиков.

За 20 лет правления Лукашенко практически под корень уничтожена *беларуская мова.* А от Белорусского телевидения и радио остались, как говорят, только рожки да ножки. А ведь до прихода к власти Лукашенко телерадиовещание в Беларуси почти полностью велось на *беларускай мове.* После проведения, я считаю, позорного нелегитимного референдума в 1995 году были запрещены национальные исторические символы Беларуси герб «Погоня» и бело-красно-белый флаг, оставлен фактически старый гимн коммунистических времен с модернизированным текстом.

Что бы мне кто ни говорил, я убежден в одном: повернув вспять процесс национального возрождения, Лукашенко за 20 лет правления подвел Беларусь к роковой черте, за которой маячит крымский или донбасский сценарий. Многие этого до конца еще не осознают. И почему-то уповают на авось.

Не будем строить догадки, чем обернется для Беларуси еще одна пятилетка правления Лукашенко. Хотя она может завершиться и досрочно. В том числе и по обстоятельствам, связанным, как я сказал выше, с вмешательством Кремля в белорусские дела. Как это произошло в Украине в связи со сменой там власти.

### Расчет на собственные силы

Не следует уповать на то, что при смене власти в Беларуси нас кто-то будет защищать от российского вмешательства. Ни США, ни страны Евросоюза не придут к нам на помощь. Только сам белорусский народ и его политическая элита способны в конечном итоге защитить свое государство, его территорию от посягательств извне.

В Украине, как известно, полагали, что Путин и Кремль никогда не решатся на нарушение фундаментальных основ международного права и Устава ООН – нарушение территориальной целостности государства Украина. Полагались на действие двусторонних договоров с Россией и на Будапештский меморандум о гарантиях безопасности и территориальной целостности. Но такой расчет, как показало время, себя не оправдал.

В отличие от лукашенковской Беларуси, в Украине (как и в других странах СНГ) при всех ее президентах никто не посягал на единый государственный статус украинского языка как языка коренной нации. Не говоря уже о символах и государственном гимне Украины.

Кстати, гимн Украины воистину имеет магическое сочетание музыки и слов. Его исполнение почти миллионом голосов на Майдане и прилегающих улицах Киева впечатлило. Оно засвидетельствовало миру рождение новой украинской нации. А в Москве вызвало реакцию, близкую к истерике. И с этого момента российская пропаганда включила в оборот по отношению к новой украинской власти термины «киевская хунта», «фашисты-бандеровцы» и т.п.

Итак, в Беларуси на старте политическая кампания под условным названием «выборы для Лукашенко». Ничего хорошего в ней не предвидится. Ибо в том виде, в каком она разворачивается, она нужна исключительно Лукашенко. И, может быть, отчасти России. Для более тщательной, так сказать, проработки «белорусского вопроса» с загнанным в клетку вассалом-«союзником».

Выдержит ли Беларусь еще пять лет правления Лукашенко и сможет ли сохраниться как независимое государство – вопросы риторические...

**Павел ЗНАВЕЦ,**
**депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

## ОТ РЕДАКЦИИ

**Прочитав письмо экс-депутата Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва П.Знавца, трудно было не вспомнить «Особые мнения» тогдашнего судьи Конституционного суда Григория Василевича. Он, правда, не оппонировал власти, а, скажем прямо, подыгрывал ей как мог. И все его «особые мнения» печатались, оглашались, воплощались в реальность.**

**«Народная Воля» – не адвокат и не судья ни для П.Знавца, ни для Г.Василевича. Но вот уже 20 лет редакция придерживается позиции, что каждый гражданин Республики Беларусь имеет право на свободу слова, на публичное высказывание своего мнения, если оно не противоречит законодательству, не идет вразрез с главными принципами морали. Исходя из этого, мы и печатаем письмо Павла Знавца.**

**Хотя до официально объявленного срока начала избирательной кампании есть еще какое-то время, эта тема каждый день получает свое развитие. Очередной импульс, полагаем, она будет иметь и после сегодняшней публикации письма П.Знавца. Попросят слова его оппоненты – дадим, будут интересные, аргументированные высказывания «нейтральных» авторов – ознакомим читателей. Словом, дискутируйте, друзья, на страницах «Народной Воли», ищите общие точки зрения, положительный выход из непростой ситуации, но не доводите ее до абсурда. Кровь людская – не водица, и в нашей и без того многострадальной Беларуси никогда больше она не должна пролиться.**

**Вместе сохраним Беларусь. А если для этого понадобится ее защитить, то станем плечо к плечу!**

